# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 33 (546) 14 ЖНІЎНЯ 1966 г. Цана 60 гр.


## ПРАБЛЕМА АСВЕТЫ Ў ЦЭНТРЫ ЎВАГІ ЦК ПАРП

15 ліпеня гэтага года адбылося ў Варшаве чарговае пашыранае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП. Пасяджэнне вёў сакратар Цэнтральнага Камітэта тав. Уладзіслаў Віха. Удзел узялі таксама віцэ-міністр Міністэрства унутраных спраў тав. Зыгфрыд Шнэк, наместнік кіраўніка Адміністрацыйнага аддзела ЦК тав. Веслаў Ацепка, інспектар тав. Уладзіслаў Скшыпчак, кіраўнік грамадска-адміністрацыйнага аддзела МСВ тав. Станіслаў Шумоўскі, дырэктар дэпартамента асветы дарослых і бібліятэк Міністэрства культуры і штукі тав. Ч. Калужны, прадстаўнікі Міністэрства асветы, кіраўнікі некалькіх адміністрацыйных аддзелаў ваяводскіх камітэтаў ПАРП, члены камісіі і прадстаўнікі нацыянальных таварystваў у Польшчы.

Прадстаўнікамі Беласточчыны былі кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Уладзіслаў Канстанчук, сакратары Галоўных праўленняў літоўскага і беларускага таварыстваў. Такі вялікі склад людзей разглядаў адно з найбольш хвалюючых пытанняў нацыянальных меншасцей: сучаснае становішча асветы і далейшае яе развіццё. Амаль усе дыскутанты (было іх 18 асоб) падкрэслівалі вялікія дасягненні ў гэтай галіне за апошнія 20 год народнай улады.

Беларусы па ліках школ і колькасці вучняў, якія навучаюцца роднай мове, займаюць першае месца. Але і тут мы маем істотны недахоп. Сярод такой колькасці сярэдніх школ, працуючых у беларускіх і змешаных асяроддзях, толькі ў адным агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове навучаецца 76 вучняў, тады калі ў яўрэйскіх асяроддзях, у такіх жа школах вучыцца аж 214 вучняў. Іх умовы з увагі на раскіданасць значна горшыя, чым беларусаў. У нас ні ў адной прафесіянальнай школе ці тэхнікумах не навучаецца беларуская мова. Так ёсць у Бельску, Гайнаўцы, Міхалове і іншых гарадах, не гаворачы ўжо аб Беластоку. Аказваецца, і ў гэтых тыпах школ можа таксама навучацца родная мова. Улады гарантуюць забеспячэнне. Над гэтым трэба нам сур'ёзна падумаць. Добрая знаёмасць беларускай мовы, напрыклад, аграному, механізатару сельскай гаспадаркі ці медсястры патрэбна не менш, чым выпускніку агульнаадукацыйнага ліцэя.

Удзельнікам пасяджэння была прадстаўлена 14-старонкавая інфармацыя. У дыскусію ўвёў Ул. Скшыпчак.

Надзвычай цікава паставіў некалькі пытанняў Ч. Калужны. (Праўда, поўнага адказу ад прадстаўнікоў Міністэрства Асветы ён на іх не атрымаў). Яго цікавілі параўнанні ўзроўняў навучання ў школах з няпольскай мовай з агульнадзяржаўнымі, лёсы моладзі, якая заканчвае гэтыя школы, праца ў гэтых школах маладзёжных арганізацый і іншыя праблемы. В. Ацепка і У. Станкевіч цікавіліся формамі школьнага надзору і магчымасцямі рэалізацыі пастаўленых у інфармацыі прапаноў. Сакратара ЦК У. Віху і міністра З. Шнэка моцна ўсхвалявала сцвярджэнне, быццам бы ўзровень навучання ў нацыянальных школах ніжэйшы, чым у школах з польскай мовай навучання, а таксама нядбайнасць улад у Лігніцы, якія не змогуць знайсці лепшага памяшкання для агульнаадукацыйнага ліцэя з украінскай мовай навучання.

Наступныя дыскутанты Я. Петрашкевіч — літоўскае т-ва і У. Юзвюк у прамовах прадставілі свае прапановы, якія хвалююць іх асяроддзі. Асаблівую ўвагу звярнулі на справу падручнікаў, школьнай літаратуры, кадравыя справы, адносіны да навучання роднай мовы бацькоў і ўлад, а таксама блытаніцу, часта супярэчлівыя адно другому распараджэнні, якія перашкаджаюць навучанню дзяцей.

На апошні недахоп звярнуў таксама ўвагу С. Шумоўскі, які гаварыў: «Далей неўпарадкаваным астаецца пачатковае школьніцтва, а асабліва пункты навучання роднай мовы, якія ў многіх выпадках будуць асноўнай формай нацыянальнаменшаснай асветы». Услед

(Працяг на стар. 4)



Аня Жукоўская, работніца трыкатажнай фабрыкі ў Гарадку. Фота В. Рудчык

## Фэстын у Войшках

Арганізаваны ў ліпені ўрачысты фестын у Войшках быў прысвечаны Тысячагоддзю Польшчы і 10-годдзю БГКТ на Бельшчыне.

У фестыне прыняў удзел старшыня павятовай рады ў Бельску **інж. Леан Пэрэк.** Галоўнае Праўленне прадстаўляў член Прэзідыум ГП БГКТ **Мікалай Серадзінскі.**

Урачыстасць адкрывае старшыня Бельскага аддзела БГКТ **Уладзімір Раеўскі,** які перадае голас наменіку старшыні аддзела **Юзэфу Альшэўскаму** — падінспектару аддзела асветы. У сваім рэфераце Ю. Альшэўскі гаворыць аб удзеле беларускага насельніцтва Бельскага павета ў будаўніцтве сацыялізма. Перад усім сяляне беларускіх вёсак выканалі і далей выконваюць многа працы грамадскім чынам, вельмі шырокі ўдзел прымае беларуская моладзь у мастацкай самадзейнасці, развіваюцца беларускія школы ў павеце.

Духавы аркестр Павятовага дома культуры пад кіраўніцтвам **В. Краўчука** заканчвае афіцыяльную частку фестына «Інтэрнацыяналам».

Пачынаецца мастацкая частка. На эстраду ўваходзіць харавы калектыў аддзела БГКТ у Бельску, якім кіруе **мгр Юрка Шурбак.** З найбольшым захапленнем прысутныя выслухалі саліста хора **Кастуся Бэзюка.** Затым выступіў вакальна-інструментальны калектыў з Боцькаў. Не вытрымалі і мастакі з Паўлаў, якія былі сярод прысутных. У час перапынкаў далі яны некалькі нумароў сваёй праграмы. Канферансье вёў вельмі добра К. Кандрацкі.

Фестын быў дасканалы. Усе справы, як арганізацыйныя так і іншыя, былі «дакручаны». Нават справа забеспячэння харчамі і напіткамі, якую запэўнілі бельскі ПСС і ГС, выпала дасканала. Людзей на фестыне сабралася каля 3 тысяч. Сярод іх былі жыхары вёсак Войшкі, Плёскі, Дзяніскі, Кнаразы, Паўлы, Канюкі і іншыя, а таксама людзі з прадпрыемстваў і ўстаноў Бельшчыны і Беластока. Арганізатарам фестыну быў аддзел БГКТ, але дапамагалі яму аддзел асветы і культуры і павятовая рада ЛьЗС. (ак)

## ДРЭНАЖ



Дрэнажныя равы на палях Орлі.

**Ужо другі год праводзіцца дрэнаж палёў Орлі і Крываціч. Закончыцца ён ў 1967 годзе. Гэтай велізарнай і каштоўнай інвестыцыяй ахоплена 600 гектараў зямлі, а праца разложана на тры гады.**

**Арлянскія гаспадары наогул вельмі тым задаволены. Справа толькі ў тым, што маюць пэўныя прэтэнзіі да кіраўніцтва работ. Напрыклад, вельмі многа нішчыцца пасеваў пры капанні равоў і гэта нармальная справа, але рабочыя ці давозчыкі абсалютна не дбаюць аб збожжа, якое астаецца на полі. Такі давозчык ездзіць па загонах засеваў, як конь водзіць, а мог бы ехаць адным месцам. Або тыя, што працуюць на самазвалах, не дбаючы аб дарогах, вывальваюць на іх велізарныя глыбы гліны, а людзі потым не могуць праехаць. Думаем, што кіраўніцтва зверне на гэта большую ўвагу і дасць адпаведныя загады працаўнікам. Усё ж збожжа — гэта супольнае наша дабро.**

Тэкст і фота А. Карпюк

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

У Маскве адбылася першая Сесія Вярхоўнага Савета СССР сёмага скліканне. Выбрала яна Прэзідыум Вярхоўнага Савета ў складзе: старшыня — **Мікалай Падгорны,** 14 намеснікаў старшыні, сакратар і 20 членаў. Сесія паклікала таксама новы ўрад СССР, старшынёй якога астаўся **Аляксей Касыгін.**

У ЗША ёсць людзі, якія прафесіянальна займаюцца прагнозам выбараў у СССР. Прадбачвалі яны вялікія змены сярод кіраўнікоў дзяржавы ў СССР. Аднак аказаліся вельмі кепскімі прагнозчыкамі. Новы савецкі парламент аказаў поўнае давер'е дагэтуляшнім кіраўнікам і не зайшлі тут ніякія змены, што сведчыць аб поўнай скансалідаванасці краіны.

Гэта між іншым чулася і з Заявы ўрада СССР аб асноўных пытаннях унутранай і знешняй палітыкі. У ім А. Касыгін заявіў, што курс знешняй палітыкі СССР будзе ў далейшым звернуты на ўмацаванне адзінства і згуртаванасці сацыялістычных краін, на падтрымку народаў, якія змагаюцца за нацыянальнае вызваленне, курс на ўсталяванне прынцыпаў мірнага суіснавання дзяржаў з рознымі сацыяльнымі ладамі. У справе В'етнама Касыгін сказаў: **«Я хачу запэўніць дэпутатаў Вярхоўнага Савета СССР, што Савецкі ўрад будзе рабіць усё, што ад яго залежыць, каб дапамагчы в'етнамскаму народу хутчэй выгнаць амерыканскіх акупантаў з в'етнамскай зямлі».**

### ВЕСТКІ З В'ЕТНАМА

Амерыканскія разбойнікі далей расшыраюць вайну на Індакітайскім паўвостраве. Некалькі разоў бамбілі яны незалежную зону 17-ай паралелі ў В'етнаме. У канцы мінулага тыдня амерыканскія піраты бамбілі вёску Каралеўства Камбоджа, у якой у тым часе знаходзілася міжнародная Камісія нагляду і кантролю, якая праводзіла допыт у справе амерыканскіх бамбардзіровак гэтай вёскі. У склад яе ўваходзяць: Польшча, Канада і Індыя.

### НІГЕРЫЯ

На працягу 7 месяцаў Нігерыя перажыла другі ваенны пераварот. Новы шэф дзяржавы падпалкоўнік Гавон заявіў, што наступіць зноў паварот да цывільнага рэжыму. Аднак пакуль што цяжка акрэсліць характар перавароту. Але адно ўжо стаецца ясным, што імперыялістычная прапаганда стараецца раздуваць тут нязгоду паміж найбольшымі плямёнамі Нігерыі, каб разбіць гэтую краіну і зноў узяць у сваю залежнасць.

### ЯПОНІЯ

6 жніўня 1945 г. па загаду прэзідэнта ЗША Трумана на японскі горад Хірасіма, — а 9 жніўня на г. Нагасакі, — скінута атамныя бомбы. 240 тысяч жыхароў было забітых, а 143 тысячы раненых. Па сённяшні дзень працуе тут спецыяльная бальніца, якая лечыць выключна ахвяры атамнага злачынства. Трэба адзначыць, што ад гэтых трагічных дзён мінула 21 год, але Японія не вызвалілася ад амерыканскіх ваенных баз.

А. К.

## БССР

### НОВЫЯ РАЁНЫ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі пастанавіў утварыць новыя раёны. На тэрыторыі Гродзенскай вобласці ўтворана два новыя раёны: **Бераставіцкі** і **Зэльвенскі.** У склад Бераставіцкага раёна ўваходзяць наступныя сельсаветы: Глебавіцкі, Данілкаўскі, Ёдзіцкі, Кватэрскі, Макаравіцкі, Малабераставіцкі, Алекшыцкі, Цецяроўскі і Эйсмантаўскі. У склад Зэльвенскага раёна ўваходзяць наступныя сельсаветы: Дзярэчынскі, Зэльвенскі і Марочынскі сельсаветы з Мастоўскага раёна; Дабраселіцкі, Крамяніцкі, Славаціцкі, Тулаўскі і Ялуцэвіцкі сельсаветы Ваўкавыскага раёна, а таксама некаторыя вёскі з гэтага раёна, як — Аўдзеевічы, Вішнёўка, Забагонне, Мадзейкі, Пасуцічы, Савічы, Сухінічы; у склад Зэльвенскага раёна ўвайшлі таксама некаторыя сельсаветы са Слонімскага раёна: Галынкаўскі, Каралінскі, Казловіцкі, Кастровіцкі і Пляценіцкі.

Новыя раёны ўтворана таксама ў Брэсцкай вобласці: **Ганцавіцкі і Жабінкаўскі.** Падобная рэарганізацыя адбываецца і ў іншых вобласцях Беларусі.

### СУСТРЭЧА.

Міністр заграніччых спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч і ўкраінскі міністр заграніччых спраў Д. Белаколас мелі сустрэчу з Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацый У Танам, які знаходзіўся ў Савецкім Саюзе па запрашэнню саюзнага ўрада ў Маскве.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

На нацыянальным свяце Кубы ў Гаване пабывала дэлегацыя СССР, якой кіраваў першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі П. Машэраў.

### ЛЯСЫ

Адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па ахове прыроды Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб стане і перспектывах развіцця лясной гаспадаркі на Беларусі. Работы па аблясенню ў дзяржаўных лясах перавысілі высечкі на 33,3 тысячы гектараў. За кошт дзяржавы аблесена 52,5 тысячы гектараў калгасных і саўгасных зямель, непрыдатных для сельскай гаспадаркі. Разам з тым маецца яшчэ шмат пясчаных зямель зусім не залесеных.

Сцверджана, што ў многіх месцах кепска пастаўлены догляд лесу, адбываюцца самавольныя вырубкі, слабая апека лесу ад пажараў.

### АМАТАРЫ

Опера беларускага кампазітара Д. Лукаса «Кастусь Каліноўскі» прагучала са сцэны Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску. Разам з ужо вядомымі таленавітымі салістамі — рабочымі, служачымі і студэнтамі ўдала дэбютавалі маладыя выканаўцы, харавая капэла і ансамбль класічнага танца. На думку знаўцаў, прэм'ера паказала высокае майстэрства самадзейных артыстаў.

Гэта шостая пастаноўка аматарскай студыі палаца, якая працуе пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Мікалая Сярдобава.

(СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### АПТЫМІСТЫЧНАЕ ПАЎГОДДЗЕ

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне нядаўна падало да агульнага ведама вынікі паўгадовай працы грамадзян нашай краіны. Са справаздачы вынікае, што зараз нас жыве ў Польшчы 31 мільён 700 тысяч чалавек, з таго: у вёсках 15,9 міль., у гарадах — 15,8 млн. Значыць, амаль пароўну. У дзяржаўнай і кааператыўнай галінах народнай гаспадаркі працавала 8 мільёнаў 466 тысяч чалавек. Сярэдняя зарплата ў краіне склала 2022 зл. і на працягу года павялічылася на 3,2% (не ўлічваючы апошняй дабаўкі). Стаемся штогод больш багатымі. Відаць гэта па стане ашчаднасці на кніжках ПКО. Склалі яны ў чэрвені г.г. суму ў 47 мільярдаў 300 мільёнаў злотых і на працягу года ўзраслі на 12 працэнтаў.

Прамысловасць краіны аднатавала прырост прадукцыі на 7,1 працэнтаў. Значыць гэты год для прамысловай вытворчасці будзе тлустым годам. Рэдка дзе на свеце можна зараз наглядаць так інтэнсіўнае развіццё прамысловасці. Агульныя гаспадарчыя заданні былі таксама перавыкананы. З фабрычных канвеераў зышло 14700 легкавых аўтамашын, 74 тыс. матацыклаў, амаль 182 тыс. хатніх халадзільнікаў, звыш 300 тыс. радыёпрыёмнікаў і 217 тыс. тэлевізараў (зараз налічваецца 2 мільёны 265 тысяч уласнікаў тэлевізараў), 58 мільёнаў пар ботаў (амаль па дзве пары на кожнага). Гэтым пералік не закрываецца. На ўсе лікі не хапіла б месца. Пабачым тады, як паказала сябе сельская гаспадарка. Сяляне больш пасеялі і сабралі пшаніцы, а менш бульбы і цукровых буракоў. Намаганні хіба слушныя. Нам жа неабходна ліквідаваць дэфіцыт збожжа і яго імпарт за долары. На 4,7 працэнтаў прыбыло быдла. Ударнікамі тут з'яўляюцца: Люблінскае, Келецкае, Ольштынскае і Беластоцкае ваяводствы, у якіх прырост быдла склаў 11—15 працэнтаў.

Даволі добры ўраджай у 1965 годзе дазволіў сялянам прадаць шматзначныя запасы збожжа. Аж 42 працэнты больш знайшлося яго ў дзяржаўных складах. Шпарка раслі куры і павялічыўся лік новых птушыных ферм (42 працэнты), многа было малака, але яек у продажы знайшлося аж на 14 працэнтаў менш. Значыць, куры прызначаліся перш за ўсё на мяса.

Гаспадары за свае прадукты атрымалі ў мінулым паўгоддзі 2 мільярды 600 мільёнаў злотых, а пазыкі банка і сялянскіх кас склалі суму 12 мільярдаў 200 мільёнаў злотых. Значыць, вёска будуецца і праводзіць усё новыя капіталаўкладанні. З'ява вельмі аптымістычная.

На кожны гектар сяляне падсыпалі ў сярэднім па 65 кг. хімічна-чыстых штучных угнаенняў. Гэта яшчэ не замнога, але ўжо можна гаварыць аб значным прагрэсе — каля 10 кг больш, як год таму назад. У нашай краіне дзейнічае зараз 32 тыс. 200 сельскагаспадарчых гурткоў, а на палях працуе каля 131 тысяча трактараў, прыбыло іх за паўгода 7336. Значыць, сельская гаспадарка інтэнсіўна механізуецца.

## ВАЯВОДСТВА

### АПТЫМІСТЫЧНЫ ПАДЛІК

Ваяводскае статыстычнае ўпраўленне аб'явіла нядаўна справаздачу, у якой гаворыцца аб выкананні планавых гаспадарчых заданняў за першае паўгоддзе 1966 года. Цікавая гэта справаздача. Найбольш, вядома, у ёй лікаў. І так: 30 чэрвеня г.г. у межах Беластоцкага ваяводства налічвалася 1 мільён 165 тысяч жыхароў. У далейшым усё менш у нас родзіцца дзяцей і менш людзей памірае. З'ява добрая. У прамысловасці працавала 53 600 чалавек, на звыш 300 больш, як у мінулым годзе. Працы шукала 2145 (зарэгістраваных) чалавек — найбольш жанчын. У той жа час канторы пасрэдніцтва працы прапанавалі 4765 свабодных месц працы, значыць, статыстычна беручы, на аднаго патрабуючага чакала больш чымсьці два месцы працы. Сярэдняя зарплата, пералічыўшы на аднаго працуючага, склала суму 1768 злотых і за год узрасла на 61 злот. Рэалізацыя гаспадарчых заданняў праходзіла наогул паспяхова. Агульны план (валавая прадукцыя) быў выкананы на 102 працэнты. Не падвёў вясковы гандаль. Кааператывы сялянскай узаемадапамогі выканалі свае планавыя заданні на 104,2%. А заводы і фабрыкі Беласточчыны выпусцілі на рынак: 17350 халадзільнікаў «Шрон», 3600 машын для растрасання гною, 47 мільёнаў цэглаў, 241 тыс. $м^3$ дошак і другога лесапільнага матэрыялу, 2 мільёны 708 тыс. м тканін розных гатункаў і 230 тыс. $м^2$ мяккай скуры. Мы з'елі: каля 35 тысяч тон хлеба і булак, 24 тоны мяса з бойняў і 4384 тоны масла (у двух апошніх выпадках не бярэцца пад увагу таго, што гаспадары самі сабе закалолі мяса і зрабілі масла).

Статыстычная справаздача — гэта лічбы і факты. На ўсё нам не хопіць месца. Таму абмяжуемся далей толькі да сельскай гаспадаркі. Тут падлікі абаснаваныя на апошнім сельскагаспадарчым чэрвеньскім спіску. Сёлета сяляне на 3,2 павялічылі плошчу пасеваў. Амаль беспрыкметна і для людзей і для жывёлы прайшоў пераджніўны перыяд. Наглядаецца значны, бо на 5,5%, прырост быдла. Перадавымі ў гэтай галіне з'яўляюцца Дуброўскі, Сямяціцкі і Ломжынскі паветы. Але яшчэ больш прыбыло нам свіней — аж 10%. Сяляне зацікавіліся таксама гадоўляй авечак. Добры ўраджай у 1965 годзе дазволіў гаспадарам прадаць дзяржаве аж на 59% больш збожжа чымсьці ў папярэднім годзе. На 24,4% больш прадалі сяляне жывёлы, на 19,6% больш малака, а курэй і іншай хатняй птушкі аж на 70% больш. Аднак яек прадалі многа менш.

За свае прадукты беластоцкія сяляне атрымалі ад дзяржавы каля 322 мілёнаў 500 тысяч злотых, значыць на 47 працэнтаў больш як у мінулым годзе. Да таго яшчэ сельскагаспадарчы банк і ашчадна-пазыкавыя касы пазычылі гаспадарам 624 міль. 400 тыс. зл. Грашовы ўкол шматзначны, павінен ён падзейнічаць аздараўляюча. Зараз на вёсках Беласточчыны працуе 4717 трактараў, а сетка сельскагаспадарчых гурткоў разраслася да 2276.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 14. VIII.**

9.55 Program dnia; 10.00 „Na południe od St. Louis" — film fab. USA; 11.20 „Wspomnienia z wakacji" — film fab. radz.; 12.30 „Wenezuela" — rep. filmowy; 12.50 „W starym kinie"; 13.50 „Michał Anioł i jego czasy" — seryjny program filmowy; 14.45 „W zielonym obiektywie" — program Redakcji Wiejskiej 15.15 „Kotka przemieniona w kobietę" — opera komiczna w jednym akcie Jakuba Offenbacha; 16.15 PKF; 16.30 Sprawozdanie sportowe; 18.30 „Wielka gra" — teleturniej; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Wesele" — film fab. radz.; 20.30 Festiwal Muzyki Rozrywkowej Dalmacji — część I (Belgrad); 21.30 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 15. VIII.**

15.55 Program dnia; 16.00 Sprawozdanie z zakończenia Centralnej Spartakiady LZS-u (Poznań); 18.45 „Słomiany wdowiec"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Kino Krótkich Filmów"; 20.30 Teatr TV: „Wiele hałasu o nic" — komedia W. Szekspira. Wykonawcy: E. Czyżewska, H. Zembrzuska, M. Czechowicz, E. Fetting, W. Krasnowiecki, H. Krzyski, A. Łapicki, M. Pawlikowski, C. Roszkowski, A. Nowakowski, W. Skibiński, S. Wyszyński, J. Skulski, M. Broniewska, M. Zagórska, Z. Skowroński, F. Kubiak; 21.50 „Eureka"; 22.20 Dziennik TV.

**WTOREK, 16. VIII.**

10.00 „Dwie noce jednego dnia" — film fab. jug.; 11.35 Przerwa; 17.35 Program dnia; 17.40 „Z drugiej strony szklanego ekranu"; 17.55 Wiad. dz. tv; 18.00 Dla młodych widzów: „Wakacje i sport" (z serii „Gramy w siódemkę"); 18.20 „Walczymy parami" — teleturniej; 18.50 „Spotkania z przyrodą" — program filmowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Miasto wyrosło z pałacu" rep. film. z Jugosławii; 20.10 „Śpiewa Roberta Murola", film; 20.15 „Dwie noce jednego dnia" — film fab. jug.; 22.00 Dziennik TV.

**SRODA, 17. VIII.**

10.00 „Strzał o zachodzie słońca", film tv. USA, western; 10.50 Przerwa; 17.35 Program dnia; 17.40 PKF; 17.50 Wiad. dz. tv; 17.55 Dla młodych widzów: „Wyprawy Telewizyjnych Przyjaciół"; 18.25 „Chytry kupiec", film z serii „Kapitan Tenkesz"; 18.50 „Magazyn Medyczny"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Strzał o zachodzie słońca" — film tv. USA, western; 21.50 „Jazz Jamboree 1964"; 22.00 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 18. VIII.** z

15.30 „Światowa wystawa hodowli ptactwa", reportaż (Kijów); 16.00 Przerwa; 17.50 Program dnia; 17.55 Wiad. dz. tv; 18.00 „Skrzyżowanie dróg"; 18.20 „Informator handlowy"; 18.30 „Trio elegijne" Sergiusza Rachmaninowa — program muzyczno-baletowy w wyk. muzyków i artystów baletu Państwowej Opery i Filharmonii w Gdańsku; 18.50 „Takie ryby" (Z cyklu „Sprawy do załatwienia"); 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Fryzjerska magia" — paryski program baletowy, film; 20.15 Teatr Sensacji: „Stawka większa niż życie" odc. VII, „Tajemnica zamku Edelsberg", wid. sens. szpieg.; 21.20 „Miniatury"; 21.45 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 19. VIII.**

17.30 Program dnia; 17.35 „Tramp" — magazyn turystyczno-krajoznawczy; 17.55 Wiad. dz. tv; 18.00 „Jutro będzie za późno", film z serii „Świat, który nie może zginąć"; 18.25 Wszechnica TV — program z cyklu „Klub opowieści z myszką"; 18.55 „Smail mój syn", film z serii „Dzień pokoju"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Przed potopem", rep. film.; 20.15 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH; po teatrze, około: 22.15 Dziennik TV.

**SOBOTA, 20. VIII.**

10.00 „Dyliżans" — film fab. USA (western); 11.30 Przerwa; 17.30 Program dnia; 17.35 Wiad. dz. tv; 17.40 Program tygodnia; 17.50 Film z serii: „Szlakiem podróży kapitana Coocka"; 18.40 „Reportaż z pocztówki"; 18.50 „Michał Anioł i jego czasy" cz. II — film wł.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Dyliżans" — film fab. USA, western; 21.30 Dziennik TV; 21.55 „Madame Sans-Gene" — komedia. Autorzy: A. Marianowicz i J. Minkiewicz wg. sztuki V. Sardou (wznowienie). Wykonawcy: A. Dobrowolska, B. Rylska, B. Lachman, B. Wilczyńska, K. Rudzki, W. Michnikowski, M. Kalenik, T. Julski i inni; 23.10 „W zdrowym ciele zdrowy duch" — rumuński filmowy program rozrywkowy.


На ўзгорку за вёскаю страшыць гуранцаў стары развалены вятрак.


На скупых гуранскіх пашах пасецца каля 100 штук кароў.

# ГУРАНЫ

## *ГУРАНСКІ ДЗЕНЬ*

*Дзень у Гуранах пачынаецца вельмі рана. Ужо а другой гадзіне пяюць гуранскія пеўні і мычаць каровы. Потым гуранскі пастух гоніць кароў на раннюю пашу.*

*— Выганя-я-я-й! — крычыць пастух голасна на ўсю вёску, злосна абрываючы свой клік на апошняй літары.*

*На дварэ яшчэ амаль поцемкі. Клік пастуха вырывае з кароткага сну гуранскіх сялян. Жанчыны выглядаюць у вокны, лянiва праціраючы заспаныя вочы. Потым ідуць у хлеў выганяць жывёлу. Для іх а другой гадзіне раніцы пачынаецца дзень працы. Кончыцца ён позна вечарам сланнем ложкаў, хатнімі парадкамі, хатнімі размовамі аб наступным дні.*

**ГАСПАДАРАВАННЕ**

У Гуранах жывуць і працуюць 42 гаспадары. Умовы да гаспадаравання тут, прызнацца трэба, не найлепшыя. Зямля дрэнная, пераважна V і VI клас, да таго цераспалосіца не дазваляе на якуюнебудзь рацыяналізацыю гаспадаравання.

У 1960 годзе гуранскія гаспадары пастанавілі арганізаваць у сваёй вёсцы сельскагаспадарчы гурток. У гурток запісалася 20 членаў, прэзэсам выбралі актыўнага гаспадара Рыгора Турыча. Хутка сельскагаспадарчы гурток дапрацаваўся свае маёмасці. Зараз мае ён 2 агрэгаты, 2 сеўнікі і трачку ільну.

Уласных сельскагаспадарчых машын сяляне ў Гуранах амаль не маюць. Кажуць, што конных машын няма сэнсу купляць, бо і так калісь будзе ў вёсцы трактар з усім абсталяваннем. І ўсе ў Гуранах з нецярплівасцю чакаюць на трактар, а больш за ўсё на камасацыю цераспалосіцы, якая дасць магчымасць карыстацца ў палявых работах трактарам.

Зямля гуранская не дазваляе вырошчваць сельскагаспадарчыя культуры, патрабуючыя лепшай глебы. Няма тут ні пшаніцы, ні гароху, ні ячменю. Многа за тое ў Гуранах грэчкі. Грэчку, так як і лён, у Гуранах сяляне масава кантрактуюць. Не хочуць аднак кантрактаваць жыта. Проста не прызвычаіліся. Солтыс дарэмна нагаварваў сялян да кантрактавання гэтай найбольш папулярнай у сельскай гаспадарцы расліны. Удалося нагаварыць толькі аднаго селяніна, ды і сам солтыс закантрактаваў жыта для прыкладу.

Параўнальна невялікія даходы з сельскай гаспадаркі прымушаюць гуранскіх сялян да пошукаў дадатковага зарабатку. Асабліва зімою, калі няма пільных работ у гаспадарцы, гуранцы шукаюць працы пераважна ў лесе. Заробленыя грошы выкарыстоўваюць па-рознаму, найчасцей аднак ідуць яны на павышэнне жыццёвага ўзроўню. Для прыкладу: у Гуранах зараз каля 25 матацыклаў, купленых амаль выключна за грошы, заробленыя працай у лесе.


Гуранскія панадворкі


Сюдою штодзённа ідуць на выган гуранскія каровы.


У гуранскіх агародах бывае па-рознаму.

**МАЛАКО**

У Гуранах каля 100 кароў. Гуранскае малако аднак худое і надта ж яго тут мала: Мясцовая злеўня адпраўляе з Гуран усяго каля 50 літраў у дзень. — Чаму так мала? — запытаеце.

Каб даведацца, трэба было б пайсці на гуранскія пашы. Травы на іх скупа, ды і тае, што ёсць, каровы не хочуць есці. Каровы хочуць вады, а вады на гуранскіх пашах няма ні кропелькі. Пашы гэтыя незагаспадараваныя, неўраджайныя, трава тут дрэнная. Нічога тады дзіўнага, што гуранскія каровы не хочуць даваць малака.

**МОЛАДЗЬ**

Моладзі ў Гуранах жыве мала, а яшчэ менш жыве тут тых маладых людзей, якія хацелі б у сваёй роднай вёсцы застацца назаўсёды. Пасля заканчэння 7 класаў школы ўся гуранская моладзь, як след, імкнецца пайсці вучыцца далей. Толькі тыя, якім гэта не ўдаецца, застаюцца ў Гуранах.

Моладзь з Гуран ідзе амаль выключна ў прафесіянальныя школы. Не сустрэнеце гуранскай моладзі ў агульнаадукацыйных навучальных установах. Працуе яна ў прадпрыемствах Беластока, Гарадка, дзяўчаты — найчасцей ў Фастах.

Малая колькасць моладзі не дазваляе ў Гуранах разгарнуць шырэйшай культурнай дзейнасці. Праўда, у мінулым годзе нейкі час дзейнічаў тут драматычны гурток. Заснаваўся ён пры вялікіх намаганнях мясцовага настаўніка Юзэфа Субеты і існаваў даволі коратка.

## *ГУРАНСКІ «ПАЭТ»*

*З людзей, якія дайшлі параўнальна высака ў грамадскім авансе, найбольш славіцца ў Гуранах Мірон Віктар, які зараз робіць дактарат па глебазнаўству. У Гуранах тлумачаць:*

*— Мірон Віктар хоча быць якімсьці там «паэтам», ці што, кніжкі хоча пісаць аб тым, як зямлю абрабляць.*

*Тэкст і фота*
*Ул. Паўлючук*


Кожнаму з гуранскіх гаспадароў прыходзіцца раз на два месяцы быць на некалькі дзён пастухом.
На здымку Віталі Курцэвіч.

# ТРЫБУНА чытачоў

## У ліпені 1944 года

Было гэта ў ліпені 1944 года. Нямецкая аўтамашына з трыма жандарамі трапіла ў засаду савецкіх партызан на дарозе Паўлы — Цялўшкі. Усе немцы загінулі. Жыхары нашай вёскі, баючыся ўзмоцненых рэпрэсій з боку немцаў, пахаваліся ў навакольныя лясы і павыязджалі да сваякоў і знаёмых, пражываючых у суседніх вёсках. У Паўлах засталося мала людзей. На наступны дзень гэтага здарэння, апоўдні немцы акружылі нашу вёску са ўсіх бакоў. Сабралі іх у адну групу і пагналі ў напрамку Рыбалаў. Ніхто не ведаў, які чакае лёс захопленых мужчын, сярод якіх былі і дзеці: Коля Давідзюк, Аляксей Федарчук і іншыя. Праз некалькі гадзін пачалася другая аблава. Немцы метр па метры з уласціваю толькі сабе дакладнасцю прашукалі абшар цэлай вёскі. Шнырылі ўсюды: на стрыхах дамоў і гаспадарскіх забудаванняў, на склепах і ямах ад бульбы і г.д. Такім чынам у нямецкі палон зноў трапіла больш дзесяці жыхароў нашай вёскі. Вось што расказвае Мікалай Садоўскі, якога захапілі немцы з іншымі мужчынамі ў гэты дзень.

— Схаваліся мы з бацькам у бункер, у якім калісьці гналі самагонку. Першую аблаву перажылі шчасліва. У час другой аблавы на наш бункер натрапіў немец, які загадаў нам далучыцца да групы людзей, што стаялі на вуліцы. Бацька прасіў, каб мяне пакінуў, тлумачыў, што я малы і слабы. Немец аднак не паслухаўся, гаркнуў і прыкладам папхаў нас у сярэдзіну групы, а потым пагналі ўсіх захопленых мужчын у напрамку Рыбалаў. Немцы нічога не дазволілі ўзяць з сабою. Ішоў я босы і ў адной кашулі. У Рыбалах пераначавалі, а на другі дзень зранку вырушылі ў далейшую дарогу ў напрамку вёскі Трычоўка. Перад Рэпнікамі нашую групу дагнала мая сястра з табалком у руках і хацела яго перадаць нам. Немец аднак не дазволіў. Сястра, карыстаючы з няўвагі немца, кінула табалок бацьку, а сама вярнулася дамоў. Знайшлі мы ў ім паўбуханка хлеба і кавалак сала. Гэтыя невялікія харчы ўратавалі нас ад галоднай смерці. У Трычоўцы затрымаліся на скраю вёскі. Некалькі дзесяткаў метраў перад намі дыміліся рэшткі саламянай хаты. Да нашых вушэй дайшла жахлівая вестка: усіх мужчын з папярэдняй групы немцы спалілі ў гэтай хаце. Было іх 24 чалавекі. Разам з сваім калегам стаяў я каля бацькі і ўмольным позіркам глядзеў яму проста ў твар. Бацька параіў нам уцякаць. Падабралі мы адпаведні момант, адарваліся ад групы і з выгляду спакойным крокам рушылі ў напрамку стога сена, які стаяў недалёка гумна. Аднак не ўдалося нам уцячы, заўважыў немец і павярнуў нас назад. Вечарам немцы загналі нас у гумно і моцна замкнулі дзверы. Усе думалі што чакае нас такі сам лёс, які спаткаў нашых папярэднікаў. Чакалі смерці з гадзіны на гадзіну, з мінуты на мінуту. Так дачакаліся да поўначы. Апоўначы мы даведаліся, што немцы не маюць намеру нас спаліць. Усіх нас немцы вывезлі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Не ўсе вярнуліся з прымусовых работ. Не вярнуўся і мой бацька. — Гэтак закончыў расказ Мікола Садоўскі.

17 ліпеня 1966 г. адбылося ў Трычоўцы (Бельскі павет) адкрыццё памятнай табліцы на месцы нямецкага злачынства.

**С. Філіпюк**
Паўлы

---

**Кніжачка гэтая, складзеная сялянамі Беласточчыны, адлюстроўвае пэўныя цікавыя рысы гэтай плыні. Апрача ўзвышання Іаана за шчодрасць і апеку над няшчаснымі праяўляецца ў «Акафісце» нейкая туга за старою патрыярхальнаю Расіяю, якую аўтары лічылі сваёй айчынай.**

**«Радуйся отечества нашего славо и ограждение. Радуйся страны российския священное укращение.[5]) Радуйся и земли Русской по многим бедствии на прежнее достоинство возвротится обещал еси».[6]) і г.д.**

**У іншым «Акафісце», які не дачакаўся надрукавання, у цікавай форме праяўляюцца пэўныя сацыяльныя моманты, як, напрыклад:**

**«Не трудящийся да не есть, сию апостольскую истину всей братии Твоей отче Іоане, возвещал еси»[7]).**

**Ды наогул трэба сказаць, што ў руху іаанітаў і ільінцаў пераплятаюцца паміж сабою пэўныя грамадска-прагрэсіўныя моманты з найбольш рэакцыйнымі. Але гэта ўжо асобная тэма.**

1) Гродненские Епархиальные Ведомости 1909 г., Нр. 31, Стр. 328.

2) К вопросу об иоанитах. Гродненские Еп. Вед. 1909 г., Нр 31.

3) Журналы с'езда депутатов Гродненской епархии. Гродненские Еп. Вед. 1909., Нр 47.

4) Сагайдаковский А.: Святой Великий и славный пророк божий Илия. Варшава 1937.

5) Акафист... стр. 5.

6) Там жа стр. 15.

7) Паводле рукапісу ільінцаў.

## Новы прадаўшчык

Бандары — вёска невялікая, а ў ёй ёсць дзве крамы. Адна тэкстыльна-спажывецкая, якую абслугоўвае Н. Хлябіч. Другая з сельскагаспадарчымі машынамі і іншымі драбнейшымі прыладамі да гаспадаркі. Дасюль абслугоўваў Уладзіслаў Баршчэўскі, які неахвотна дбаў пра давоз новых матэрыялаў. Аднак жыхарам навакольных вёсак неспадабалася такое абслугоўванне. Цяпер ГС у Міхалове зажадаў перанесці краму ў прасторную хату Дзімітра Казберука. Зараз прадаўшчыком з'яўляецца малады, ветлівы, сумленны чалавек Мікола Хлябіч з Рыбакоў. Новы прадаўшчык дбайны і ў яго тавараў вялікі асартымент. У яго краме заўсёды чыста, парадак, быццам у аптэцы.

**Мікалай Сухадола**
Слабодка




Дарагое **Сэрцайка!**

Мне 21 год. Жыву з бацькамі на гаспадарцы. Прайшла сельгаспадрыхтоўку ў суседняй вёсцы. Маючы 18 год, калі я даязджала ў суседнюю вёску на сельскагаспадарчыя курсы, пазнаёмілася з Юркам, які таксама хадзіў на заняткі. Мы адно другому спадабаліся і пакахалі. Аднак Юрэк паходзіць з багатай сям'і і таму бацькі яго не дазволілі са мной жаніцца. Юрэк ажаніўся з другой, аднак пры кожнай неспадзяванай сустрэчы гаворыць, што далей мяне кахае і вельмі шкадуе, што паслухаў бацькоў. Я таксама вельмі перажывала, аднак ужо год часу, як пачала даходзіць да раўнавагі. Паўгода таму я пазнаёмілася з хлопцам, які мне трохі падабаецца, а можна сказаць, падабаецца, як і іншыя хлопцы. Аднак ніводнага з іх не магла б ніколі пакахаць. Мне ўсё роўна ўжо, абы выйсці замуж за нядрэннага, каб не піў і не біў, як кажуць. Бацькі раяць выходзіць за Віцю. Віця мне ўжо не раз гаварыў, каб пайсці ў ЗАГС. Не ведаю, што рабіць. Віця нядрэнны хлапец, мо я яго калісьці і пакахаю, аднак цяпер ён мне далёкі. Што рабіць?

**Марыся**
з Сакольшчыны

Дарагая Марыся!

Першае каханне заўсёды доўга памятаецца. У большасці людзей першае каханне найбольш памятаецца і перажываецца, аднак яно пераважна найменш трывалае, хоць гэтага не магу становўча сцвердзіць у цябе. Цяпер цяжка аб гэтым гаварыць. Аднак не раю табе, Марыся, выходзіць за Віцю, хаця ён і нядрэнны, як пішаш, хлапец. Ты яго не кахаеш, а няма што лічыць на тое, што мо калісьці пакахаеш. Ты яшчэ маладая і напэўна сустрэнеш хлапца, які прыпадзе табе да сэрца. Таму пастарайся пераканаць бацькоў, што ты яшчэ маладая і можаш пачакаць з замужам. Спяшацца ніколі не трэба.

Жадаю табе ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

**ПРАТЭЗОЎНЯ ЗУБОЎ**



Павятовая стаматалагічная пратэзоўня ў Бельску-Падляшскім утворана ў 1962 годзе. Да гэтага часу яна выканала 3000 пратэз для жыхароў Гайнаўскага і Бельскага паветаў.

Лекар-стаматолаг Рэгіна Бокінец робіць прымерку зубоў.

**Павел Зінкевіч**

## На забавах неспакойна

Хуліганы яшчэ ўмеюць паказаць свае вострыя кіпцюры, гэта вядома. Праўда, міліцыянеры ім ў гэтым не дапамагаюць, але мне здаецца, што мала імі яшчэ займаюцца. Найбольш хуліганскіх выбрыкаў можна ўбачыць на вясковых забавах.

А таму, што яны мала калі бачаць там міліцыянераў і таму такое для іх раздолле. Калі пап'юцца, робяць што ім падабаецца. Так, напрыклад, у Семяноўцы аднойчы на забаве хтосьці пасыпаў падлогу слёзатачывым парашком. Як вядома, цэлая зала пачала «плакаць». Гэтае самае паўтарылася ў Рыбаках (Беластоцкі павет), дзе добра падрыхтаваная забава закончылася за дзве гадзіны. Як бачым, многа моладзі ёсць яшчэ на вельмі нізкім культурным узроўні. Найспакайней праходзяць забавы ў Нараўцы, дзе кожную забаву сядзяць там міліцыянеры.

**«Верас»**

## Злеўня і крама

Дрэнна, калі ў вёсцы няма крамы. У Тафілаўцах на Гайнаўшчыне некалькі год таму была крама, аднак нядоўгаяна існавала. Кляшчэлеўскі ГС пасля двух гадоў закрыў яе. Тафілаўчане па закупы хадзілі ў Дубічы. У мінулым годзе ў Тафілаўцах восенню была распачата будова будынка на злеўню малака з крамай — ініцыятыва Дубіцкага ГРН і жыхароў Тафілаўцаў. Малачарня ўжо восенню была адкрыта, а краму адкрылі на пачатку ліпеня. Прадаўшчыком жыхары выбралі мясцовага хлапца Грышу Карча.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя




Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 290 | 300 |
| пшаніцы | цэнт. | 480 | 400 | 390 |
| яйкі | 1 шт. | 1,65 | 1,60 | 1,50 |
| масла | кг | 58 | 60 | 50 |
| ялавічына | кг | 32 | — | — |
| свініна | кг | 34 | 38 | — |
| сала | кг | 33 | 35 | — |
| бульба | кг | 1,65 | 2,00 | 2,00 |
| цыбуля | кг | 5,50 | 4,00 | 5,00 |
| капуста | кг | 1,75 | 1,50 | 1,10 |
| морква | кг | 3,00 | 4,00 | 5,00 |
| буракі | кг | 3,00 | 3,00 | 5,50 |

# КІНО

**Праграма
на 16—21. VIII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Alba Regia" (węgierski), 16—17. „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 18—19. „Zabawy w muzeum" (węgierski), 20—21.

**Кляшчэлі**
„Jesienny dzień" (wietnamski), 16—17. „Towarzysz Regent" (czeski), 18—19. „Szkarłatne godła odwagi" (USA), 20—21.

**Дубіны**
„Małpia kuracja" (USA), „Skrawek ziemi ojczystej" (radz.), 17—21.

**Нарва**
„Jest taki chłopak" (radz.), „Koniec naszego świata" (pol.), 17—21.

**Нараўка**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski), 17—21.

**Чыжы**
„Był sobie dziad i baba" (radz.), „Czarne skrzydła" (radz.), 17—21.

**Дубічы Царкоўныя**
„Opowieści znad Donu" (radz.), „Człowiek, który stchórzył" (radziecki), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Droga przez cmentarz" (radziecki), „Dwója z wychowania" (radz.), 17—21.

**Орля**
„Umrzeć w Madrycie" (franc.), „Kuba w ogniu" (kubański), 17—21.

**Райск**
„Ameryka, Ameryka" (USA) „Ewa A-5116" (węgierski), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Alba Regia" (węgierski), „Panie inspektorze" (jugosł.), 17—21.

**Міхалова**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), 16—17. „Normandia-Niemen" (radz.), 18—19. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 20—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Trzy życzenia" (czeski), 16—17. „Podróż nie z tej ziemi" (jugosłowiański), 18—19. „Obok prawdy" (polski), 20—21.

**Мілейчыцы**
„Pięć łusek" (NRD), 16—17. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 18—19. „Giuseppe w Warszawie" (polski), 20—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Spacer po linie" (angl.), 16—17. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 18—19. „Miłość blondynki", (franc.), 20—21.

**Шудзялава**
„Ambicja" (radz.), „Ballada o dziewczynie" (wietn.) 17—21.

**Сідра**
„Premiera odwołana" (NRD), 16—17. „Siódmy przysięgły" 18—19. „Pożegnania" (polski), 20—21.

**Сухаволя**
„Operacja Y" (radz.), 20—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Czarne i białe" (USA), „Gładka skóra" (franc.), 20—21.

**Ліпск**
„Karambol" (węgierski), „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 20—21.


# НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Bltk D-3



# Сфрустраваны Яцусь

Сталася няшчасце. На пабыўку прыехала да мяне адна сваячка са сваім 6-гадовым шалуном, Яцкам. Вядома, сам прыезд гарадскіх гасцей яшчэ не прычына няшчасця. Бяда здарылася пазней. Спачатку ішло ўсё гладка.

Гэтаму Яцку жончыны гусяняты вельмі спадабаліся. Яшчэ жоўтыя, без пер'яў, бегалі чарадой па ўсім панадворку. Яцэк лавіў іх і, размахнуўшыся, намагаўся перакінуць за хлеў. Я далікатна папрасіў сваячку, каб неяк уціхамірыла свайго героя.

— А што я зраблю, калі ён цалкам сфрустраваны. Шкада было гусянят, але яшчэ болей шкада зрабілася гэтага Яцка.

— Годзе, мілая, — супакойваў я жонку, калі яна пачала шыпець са злосці, бы паравоз. — Ён хворы. Нейкая страшэнная хвароба да яго прычапілася.

Прайшло пару дзён і Яцэк пачаў, у выніку безупынных выпрабаванняў, так спраўна кідаць гусянятамі, што ўжо нават палавіны іх не асталося. І тады я таксама не вытрымаў. Злавіў гэтага Яцка, перагнуў на калена і на мягкае месца штук дзесяць адмераў. Яцэк пасінеў, расцягнуўся на зямлі і занёсся так страшным крыкам, што збегліся суседзі і, вытрашчыўшы вочы, наставілі насы на мой панадворак. Прыбегла і сваячка.

— Што тут дзеецца?! — крычыць.

— Забяры к чорту свайго сыночка, каб больш ён гусянят не біў! — заявіў я.

— Вялікая рэч, гусяняты! — надула яна губы. — Наш Яцусь сфрустраваны і...

Сярод таўпы суседзяў і другіх цікаўных прайшоў нейкі трывожны шорах. Я плюнуў са злосцю і пайшоў да працы. А вечарам да жонкі прыбегла Гаўрылава Манька. Нібы пазычыць паўлітра манапалёўкі, а ўсё зракачы свае пхае ў другі пакой, дзе гарадскія госці разлажыліся.

— А дзе ж ваш Яцэк? — соладка закідвае.

— Спіць ужо, — неахвотна паясняе жонка. — А табе што да яго?

— Ці гэта праўда, што ён... кайстраваны? — пытае.

Пагнаў я яе аж дзверы затрасліся. Але на тым яшчэ не закончылася. На другі дзень на сенажаці падыходзіць да мяне нібы на перакур сусед Палікарп і пра маіх гасцей пачынае, а потым кажа.

— Скажы, браток, навошта ў горадзе цяпер дзяцей, бы паршукоў кайструюць?

— Хто вам гаварыў?! — пачырванеў я.

— То ж у цэлай вёсцы ўсе гавораць, што ваш гэты. Яцэк кайстраваны.

Рука неяк самачынна працягнулася да Палікарпавага носа. Але гэта не дапамагло. Вестка распаўсюджвалася, як злая хвароба. Урэшце ў чацвер на кірмашы выпадкова падслухаў я гутарку двух мужыкоў з суседняй вёскі, з якой вынікала, што гэта я стаў прычынай няшчасця гарадскога хлапчука. Цяпер маткі страшаць мною свае дзеці. Дык я ўжо сам дастаю гэтай фрустрацыі.

**Асака**

### ХТО ВІНАВАТЫ?

*Каля вачэй Цыбуля трэцца:*
*— Вы плачаце, здаецца?*
*Скажыце мне, чаго?*
*Пакрыўдзіў хто? — Дык я яго!*

І. Шуцько

### ЁН ЗГОДЗЕН

*Сказала Паўліку яго радня:*
*— А Салаўю ты, Пеця, не раўня.*
*— Святая праўда — згодзен я:*
*Ці ж столькі мяса будзе з Салаўя?*

І. Шуцько

### РЭКЛАМАЦЫЯ

*У краме да касіршы падыходзіць кліент:*

*— Перапрашаю, некалькі мінут таму назад грамадзянка выдала мне няправільную рэшту.*

*— А ці не бачыце вы надпісу, што пасля адыходу ад касы рэкламацыі не бярэм пад увагу!*

*— Калі так, дык шчыра дзякую. Атрымаў на 50 злотых больш чым мне належылася.*

### ЛЮБОЎ

*Дзяўчына да маладога чалавека:*

*— Вы вельмі ж падобны да чалавека, якога я вельмі кахала.*

*— Напраўду? Даўно гэта было?*

*— Не, учора вечарам.*

### СУПАКОІЎ

*Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ўбокі стары Антось каля гумна з хлебам і... хоць бы што. А гумно гарыць — ужо і страха абурылася.*

*Крычаць мужыкі: «Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе!»*

*— Але ж тут і мышэй ляпнула... — пазіраючы на вогнішча, супакоіў іх Антось.*

### ЗАПАЛЕНАЯ СВЕЧКА

*Такі характар мае*
*Свечка:*
*Хто толькі чхне —*
*ужо трапеча.*

Без слоў.

— Я гатоў аддаць табе ўвесь свет.





Без слоў.



— Нашто табе доктар? Я сама выганю тваю прастуду!

## АКЕНЦА ДУМАК

Самае цяжкае — пазбавіцца абмежаванасці, не пакрыўдзіўшы абмежаваных.

**Антон Штубня**
Чэхаславакія

# ЧАРНАБРОВАЕ ШЧАСЦЕ МАЁ

Словы: А. Ставера

Муз. Я. Ціхановіча





Ты была маёй першай каханай...
Толькі лёс нас навекі развёў...
Я згубіў цябе рана, ой рана,
Чарнабровае шчасце маё.

Зарачанскія росныя сцежкі
Мне цяпер удвая даражэй, —
Блеск расы мне нагадвае ўсмешкі
Незабыўных харошых вачэй.

Тых вачэй, што ў юначыя годы
Мяне ў светлыя мары вялі...
Як шкада, што з табой назаўсёды
Мы па розных дарогах пайшлі.

Ты была маёй першай каханай...
Толькі лёс нас навекі развёў...
Я згубіў цябе рана, ой рана,
Чарнабровае шчасце маё.